• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

28 сакавіка 1998 г. субота, № 72 (23423)



# ЗВЯЗДА

*НОВЫ ЧАС*

## НА ДВАРЭ ЯШЧЭ ЗІМА, А НА ГАДЗІННІКАХ — УЖО ЛЕТА

**У гэтую нядзелю, 29 сакавіка, адбываецца пераход на «летні» час. Стрэлкі пераводзяцца на гадзіну ўперад у 2 гадзіны ночы.**

Упершыню «летні» час быў уведзены ў Вялікабрытаніі ў 1908 годзе пасля прыняцця законапраекта аб пераводзе гадзіннікавай стрэлкі ў мэтах эканоміі энергетычных рэсурсаў. Эканомія аказалася істотнай, і вопыт англійскай дзяржавы падхапілі розныя краіны. Цікава, што ў Расіі да такой маніпуляцыі з гадзіннікам упершыню звярнуліся ў 1917 годзе. Часовы ўрад паклаў пачатак гэтай традыцыі.

На сённяшні дзень амаль усе краіны Еўропы, ЗША, Канада, Кітай, Аўстралія, шэраг іншых дзяржаў ажыццяўляюць перавод стрэлак. Сярод краін СНД, якія не практыкуюць падобнага, Таджыкістан, Узбекістан, Туркменістан.

Перавод стрэлак гадзінніка ажыццяўляецца глыбокай ноччу не выпадкова: у гэты перыяд інтэнсіўнасць пасажырскіх і грузавых патокаў найменшая. Па інфармацыі Міністэрства шляхоў зносінаў Расіі, у выпадку адмены «летняга» часу на чыгуначным транспарце ўзнікнуць значныя цяжкасці ў руху паяздоў. Давядзецца двойчы ў год распрацоўваць новае расписанне для міжнародных паяздоў, што прымусіць уносіць змяненні і ў расписанне маршрутаў унутры краіны. Праблемы ўзнікнуць таксама ў авіяцыйнай службы.

Нават двухгадзінная розніца для арганізма бясшкодная, поўная адаптацыя наступае праз пару дзён. Спецыяльнае вывучэнне розных узроставых груп дзяцей не выявіла ніякіх адхіленняў у іх адчуванні. Функцыянальныя зрухі ў некаторых асоб, якія кампенсуюцца на працягу 10—15 дзён, па меркаванню спецыялістаў, могуць быць звязаныя з авітамінозам, сацыяльнымі перагрузкамі. Такія ж вынікі атрыманыя і ў шэрагу краін, у тым ліку ЗША. Нават зніжэнне ўзроўню злачыннасці і змяншэнне колькасці аварый на дарогах у вячэрні час спецыялісты звязваюць з увядзеннем «летняга» часу. Ну а лепей за ўсё, аказваецца, дачнікам — светлавы дзень яны могуць выкарыстоўваць больш паўнацэнна.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ЛЁСЫ*

## САШКАЎ ПАРАВОЗ



Знешне ён выліты афрыканец. Чарнаскуры, кучаравыя валасы, прыплюснуты нос... Але варта правесці з ім хоць бы некалькі хвілін, зусім забываешся пра яго экзатычнае аблічча.

У імгненне ён становіцца сваім хлопцам, бойка размаўляе на беларускай мове, расказвае анекдоты, не стрымліваючы сябе ў выказваннях, не супраць прапусціць з сябрамі сто грамаў дзе-небудзь у кафетэрыі, бары ці, як кажуць у народзе, проста ў забягалаўцы. Вызначаецца, можа, толькі тым, што ў любой кампаніі практычна меншы за ўсіх ростам, надзвычай жвавы, рухавы і гаварккі. Ствараецца ўражанне, што ён ніколі не сумуе, у любой абстаноўцы адчувае сябе, як рыба ў вадзе і абсалютна пазбаўлены ўсялякіх комплексаў з прычыны знешнасці.

Яму 64 гады. Па пашпарту — Аляксандр Дзямідаў. Нацыянальнасць — рускі. Працаваў у Мінскім лакаматыўным дэпо. Быў качагарам на паравозе, памочнікам машыніста, і сам вадзіў лакаматывы. Пайшоўшы на пенсію, быў вартаўніком на складзе ў вайсковай часці, а потым, калі спісаныя паравозы пачалі выкарыстоўваць як кацельні, вярнуўся да звыклай справы, балазе здароўе дазволіла.

А паходжанне ў яго сапраўды афрыканскае. Тайна яго нараджэння, а было гэта ў 1934 годзе, дагэтуль і для яго застаецца не да канца раскрытай.

### ГАДЫ ВАНДРАВАННЯЎ

— Перад вайной, — расказвае Аляксандр Андрэевіч, — я жыў у Югаславіі ў роднага дзядзькі па бацьку. Ён быў рускі. Звалі яго Дзямідаў Андрэй Парфіравіч. У горадзе, дзе ён атабарыўся, было шмат рускіх. Але хто бацька і маці і дзе яны, пра гэта чамусьці маўчалі. Памятаю, як хрысцілі мяне ў праваслаўнай царкве, як хадзіў у школу, урокі французскай і рускай мовы.

Але абстаноўка, жыццё і ў сям'і сваякоў была не мёд. Неўзабаве я адтуль уцёк. Так пачаліся мае дзіцячыя «універсітэты».

(Заканчэнне на 5-й стар.)

### ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Чацвёртая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пачне сваю работу 2 красавіка 1998 года ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (Дом урада, Авальная зала).

Рэгістрацыя дэпутатаў праводзіцца 1 красавіка 1998 года з 12 гадзін у фае залы пасяджэнняў.




**НАВАТ ПЕРШЫЯ апытанні, прысвечаныя надыходу новага тысячагоддзя, яскрава прадэманстравалі адну, на наш погляд, вельмі цікавую дэталь: людзі вельмі сур'ёзна ставяцца да пытанняў. Не тое каб адказваць неяк афіцыйна, штампамі, хутчэй наадварот — вельмі ўдумліва, нібыта ўзважваючы ўсё сваё жыццё. Ніводны наш суразмоўца не адмовіўся ад удзелу ў апытанні, многія прасілі даць час на абдумванне. Вядома, наіўна было б меркаваць, што мы сваёй рубрыкай здзейснім нейкі пераварот у свядомасці многіх суайчыннікаў, але спадзяёмся: напрыканцы другога тысячагоддзя, магчыма, кожны з нас паспрабуе зазірнуць у сваю душу і адказаць самому сабе на вельмі важныя пытанні. На жаль, у мітусні будзённых спраў мы вельмі часта забываем многія рэчы, дзеля якіх, уласна, і жывём. Таму давайце задумаемся аб галоўным разам з нашымі чарговымі суразмоўцамі — кожны аб сваім...**

***1. Што вы пакідаеце пасля сябе ў гэтым тысячагоддзі?***
***2. Якую справу вы хацелі б абавязкова паспець зрабіць да 1 студзеня 2001 года?***
***3. Якім вы бачыце сваё жыццё ў трэцім тысячагоддзі?***
***4. Якую рэч вы ўзялі б з сабой у новае тысячагоддзе з цяперашняга жыцця?***
***5. Як вы сустрэнеце 1 студзеня 2001 года?***

**Віктар ШЫМОЛІН, кіраўнік прэс-цэнтра Мінгарвыканкама**

**1.** Дзяцей, унукаў. Яшчэ дом у вёсцы сваім, сад — тым, хто будзе жыць далей.

**2.** Хацеў бы захаваць здароўе да таго часу. Я ж удзельнік ліквідацыі катастрофы на ЧАЭС. Жывым, здаровым пайсці на пенсію і прадоўжыць працаваць як журналіст.

**3.** Калі гаварыць пра дзяржаву — аб'яднанне рэспублік. Я лічу, гэта рэальна, асабліва ў эканамічным плане. Я быў з мэрам у Алматы, там 60 працэнтаў насельніцтва — па-за рысай беднасці. Ледзь не кіламетровыя чэргі за работай на гадзіну...

**4.** Мір і спакой у доме. З рэчаў — аўтамабіль. Мара — сотавы тэлефон, якога ў мяне няма.

**5.** Хацелася б у асяроддзі сям'і. І каб не было ўзрушэнняў у грамадстве.

**Мікалай ПАЦКО, дырэктар Вілейскай раённай бібліятэкі:**

**1.** Напэўна, не трэба лішні раз паўтараць банальную фразу, што сапраўдны мужчына павінен за сваё жыццё пабудаваць дом, выхаваць сына і пасадзіць дрэва. Дык вось, двухпакаёўка ў мяне ўжо ёсць, два сыны растуць, а вось з дрэўцам праблема — не прыжываецца яблынька ў цешчы, хоць ты плач (трэба яшчэ адну спробу зрабіць). Спадзяюся, будзе што ўспомніць.

**2.** Хацелася б, каб у роднай бібліятэкі было б паменш матэрыяльных праблем, а ў асабістым жыцці — каб здароўе было. Праўда, на жаль, не заўсёды ўсё залежыць ад нас.

**3.** Думаю, адразу ж з пераходам у новае тысячагоддзе ўсе праблемы не знікнуць, нібыта іх і ўвогуле не было. Пасля, магчыма, жыццё і палепшае. Ва ўсякім разе трэба спадзявацца, што так яно і будзе.

**4.** Вядома ж, абавязкова ўзяў бы з сабой родных і блізкіх.

**5.** Пакуль не задумваўся, як адзначу, аднак трэба будзе прыдумаць нешта незвычайнае. Час жа яшчэ ёсць...

**Анатоль СКОРБЕШ, намеснік міністра прадпрымальніцтва і інвестыцый:**

**1.** Самае дарагое, што пакіну пасля сябе ў гэтым тысячагоддзі, — гэта двое маіх дзяцей.

**2.** Я гляджу на пытанне са сваёй званіцы, таму вельмі хочацца, каб справа, якой я займаюся, прынесла карысць і прадпрымальніцтву, і дзяржаве ў цэлым.

**3.** Верыцца, што калі зробім усё тое, што задумалі, то жыццё будзе нашмат лепшым за цяперашняе.

**4.** Рэчы — справа непатрэбная. Узяў бы з сабою сям'ю і сяброў. Сапраўдных сяброў.

**5.** Як адзначу? Усё будзе залежаць ад таго, дзе я на той момант буду, і з кім.

**Аркадзь САЛІКАЎ, начальнік Мінскай цэнтральнай мытні**

**1.** А калі па вашых падліках надыдзе трэцяе тысячагоддзе? 1 студзеня 2001 года? Правільна, а то некаторыя блытаюцца. Які след?.. Свой вопыт, праўда, я забяру з сабой. Пакіну ў мінулым усе негатыўныя моманты, зыходзячы з маральных аспектаў.

**2.** Складанае пытанне... Найперш хацеў бы, каб не было крыўдна за самога сябе. Каб было задавальненне ад уласнага духоўнага развіцця, узроўню.

**3.** Я не аматар прагнозаў, бо гэта справа няўдзячная. Хацелася б верыць у лепшае. Зараз час родаў, пакутлівы час. Але ў нас багаты патэнцыял. Лічу, за намі будучыня. Мы — як мост паміж Захадам і Усходам, і на стыку гэтых дзвюх культур павінна адрадзіцца новая культура, наогул новая агульнаславянская культура трэцяга тысячагоддзя.

**4.** Найперш я застаўся б верным сваёй сям'і. А рэчы... У мяне няма такіх рэчаў, за якія б я трымаўся. Галоўнае, захаваць у душы любоў — пачуццё, якое вызначае чалавека.

**5.** Думаю, за святочным сталом, сярод сяброў, у абстаноўцы радасці і шчасця.

## «ЗВЯЗДА» ПАДТРЫМЛІВАЛА І ДАЛЕЙ БУДЗЕ ЛАБІРАВАЦЬ ІНТАРЭСЫ АЙЧЫННЫХ ВЫТВОРЦАЎ, ЧЫЯ ПРАДУКЦЫЯ АДПАВЯДАЕ СУЧАСНЫМ ПАТРАБАВАННЯМ ПА ЯКАСЦІ, ДЫЗАЙНУ, ЗРУЧНАСЦІ ВА ЎЖЫВАННІ

***У тым, што гэта так, могуць пераканацца падпісчыкі «Звязды», якія сталі пераможцамі традыцыйнай латарэі.***



**На здымку:** вызначалі пераможцаў «Звязды» начальнік бюро рэкламы Мінскага прыборабудаўнічага завода Святлана БЕЛАШ, начальнік аддзела распаўсюджвання друку РА «Белпошта» Валянціна СІМАКОВА і галоўны тэхнолаг РА «Белптушкапрам» Вера ВАСЕЧКА.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*Ходзяць чуткі, што...*

## ...Нядобразычліўцы хацелі сарваць працу віцебскіх гарадскіх парламентарыяў

Чуткі гэтыя сапраўды ўзніклі ўчора бліжэй да апоўдня ў горадзе на Дзвіне, аб чым засведчыў і тэлефонны званок у рэдакцыю: маўляў, міліцыя і ваенізаваная пажарная ахова эвакуіруюць дэпутатаў гарсавета з будынка гарадскога выканаўчага камітэта, бо нехта падклаў бомбу і вось-вось павінна рвануць...

На самой справе, страх аказаўся занадта перабольшаны. Як паведаміў рэдакцыі старшыня Віцебскага гарвыканкама Уладзімір Пелагейка, праца дэпутатаў гарадскога Савета 27 сакавіка была надзвычай плённай: разглядаўся рэгламент работы Савета, некаторыя фінансавыя пытанні, у прыватнасці, станоўча нарэшце была вырашана праблема аб фінансаванні мясцовай арганізацыіі БПСМ, а таксама «Славянскага базара», зацверджана палажэнне аб ганаровым грамадзяніне Віцебска і г. д. Што датычыць так званай «бомбы», то ёю аказалася звычайнае кароткае замыканне ў электраправодцы, якое не перашкодзіла працы віцебскіх заканатворцаў.




# Добры дзень, шаноўны чытач!

Я магу звяртацца да цябе «на ты», праўда? Мы ж даўно знаёмыя: твае пісьмы я атрымліваю штодня. Даруй, што не магу адказаць табе на ўсе асабіста, вось так, праз газету. Я б з задавальненнем, але ў рэдакцыі працуюць яшчэ тры дзесяткі чалавек, якія таксама ўвесь час маюць нешта сказаць табе. Таму я і тут пастараюся пісаць як мага карацей: трэба ж пакінуць месца і для астатніх...

Як твае справы — я пытацца не буду, пра іх з тваіх допісаў я ведаю нават больш, чым ты думаеш. Лепш я раскажу табе пра сваё жыццё. Дакладней, пра сваю работу. Пра асабістае пісаць не буду: ведаю, у цябе і сваіх турбот хапае... А вось праца... Ведаеш, шаноўны чытач, мая праца — гэта твае пісьмы. Вось таму я і хачу крыху пра яе расказаць. Думаю, табе будзе цікава...

Ты не ўяўляеш, з якім хваляваннем і нецярплівасцю я штодня пачынаю разбіраць рэдакцыйную пошту. Увесь час думаеш: вось зараз трапіцца пісьмо ад шчаслівага чалавека, які хоча расказаць аб сваёй радасці... Але марныя мае спадзяванні... Калі ёсць у цябе тое шчасце, ты аб ім чамусьці маўчыш, шаноўны чытач. Баішся, каб не сурочылі? Што ж, можа яно і правільна... А вось бяды і турбот у цябе ой як шмат! Амаль у кожным тваім допісе — трагедыя, боль, просьба: дапамажы, газета... Ты б бачыў мой твар, калі я прачытаю твае пісьмы. Я ж увесь твой боль перажываю разам з табой. І хочацца паплакаць, завыць ад несправядлівасці, з якой ты сутыкнуўся. Але я бяру сябе ў рукі, і пачынаю думаць аб іншым: як табе дапамагчы. Гэта ж мая работа...

Ты не ўяўляеш, як я радуюся, калі пошта прыносіць станоўчыя адказы на твае пісьмы, якія мы перасылаем у больш кампетэнтныя ў тваіх пытаннях арганізацыі. Як усцешваюся (і, нават пакаюся: крыху ганаруся сабой), калі даведаюся, што пры пасрэдніцтве нашай «Звязды» асвятліліся вуліцы ў нейкай вёсцы, недзе загаварыла, нарэшце, радыё, у кагосьці запрацаваў адрамантаваны тэлефон. Я проста трыумфую, калі ўдаецца дапамагчы табе дабіцца справядлівасці: аднавіцца на рабоце, атрымаць нявыплачаныя грошы, зняць незаконную вымову... Я з палёгкай уздыхаю, калі прыходзяць адказы на пастаўленыя табой пытанні, радуюся, што ты зможаш вырашыць свае праблемы, спадзяючыся на нашу газету...

Але здараецца і так, што я адчуваю бяссілле разам з табой. Вось пісьмо з Лунінца ад спадарыні А. Яна дзеліцца сваёй крыўдай: на пахаванне маці, якая ўсё жыццё прарабіла на хлебазаводзе, гэты самы хлебазавод не выдзеліў ні рубля. Ну чым тут дапаможаш? Калі б аддзел сацзабеспячэння не выплаціў належныя грошы — іх можна было б спагнаць па закону. А ці выплачваць дапамогу ад прадпрыемства — справа сумлення кіраўнікоў прадпрыемства... Прыходзяць лісты з просьбай знайсці гады стажу падчас працы, напрыклад, на Камчатцы ў 50-ыя гады на прадпрыемстве, якога ўжо даўно не існуе. Можна толькі паспачуваць: развалілася вялікая краіна, і мы ўсе ў нечым — ахвяры гэтага развалу. Але хочацца яшчэ і спытацца: а дзе ж ты быў раней, шаноўны? Чаму спахапіўся толькі цяпер?..

Я з цікавасцю чытаю твае развагі па розных пытаннях і праблемах нашага жыцця. Калі яны вартыя ўвагі ўсіх, яны з'яўляюцца (тут ты сам мне не дасі зманіць!) у спецыяльнай рубрыцы «Прашу слова». Але, пагадзіся, зусім не варта друкаваць сон спадара Д. з Рагачова ці абурэнне спадара М. з Мінска тым, што камусьці далі не тую ўзнагароду...

Ведаеш, мне нярэдка бывае прыкра і сорамна за цябе, шаноўны. Некаторыя твае пісьмы я з грэблівасцю бяру двума пальцамі. Гэта — ананімкі, у якіх ты пішаш, што ў суседа занадта многа зямлі, што суседка працуе не па спецыяльнасці, што даярка з твайго калгаса крадзе малако... Прабач, калі гэта праўда, то чаму ты не заявіш аб гэтым на ўвесь голас, на месцы. Чаго ты баішся? Навошта пішаш у газету не падпісваючыся? На твой «сігнал» прыватнага характару, а лепш, мне здаецца, назваць яго «кляўзай», ніхто не паедзе разбірацца. Хаця б таму, што «сігнал» не падпісаны. Карацей, такая пісаніна — дарэмнае марнаванне тваёй паперы і чарніла і майго часу...

А яшчэ больш прыкра становіцца мне, калі ты мяне падманваеш. Я ж табе веру, шаноўны чытач, як жа інакш. Дагэтуль успамінаю чуллівы ліст сп. Карпенка з Бярозаўскага раёна: не магу, маўляў, з дзецьмі прапісацца. Апублікавалі яго ў «Крыку душы». А праз месяц — адказ: Карпенка з'ехала з вёскі, яна даўно ў вышуку па абвінавачанню ў крадзяжы. Вынік — мне прыйшлося публічна пасыпаць попелам сваю даверлівую галаву... Прыйшло пісьмо з Дзятлаўскага раёна ад сп. Калпаковай, якая хацела ўдакладніць нешта наконт пенсіі. Даслалі ў Дзятлаўскі сабес, адтуль адказ: Калпакова на ўліку не стаіць. Выходзіць, прозвішча выдуманае. Навошта было тады турбаваць людзей?.. Ці вось яшчэ — ліст (не ведаю, каторы ўжо па ліку) ад спадара Д. з Маладзечна. Ён лічыць, што яму няправільна вызначылі групу інваліднасці. Рэдакцыя накіроўвае ліст медыкам, адтуль — адказ: «галоўны эксперт вобласці наведаў вас дома, вас не аказалася. Раім прыйсці на абследаванне ў паліклініку». Шаноўны Д. чамусьці ў паліклініку не ідзе, тады яго выклікаюць у Мінск, у Інстытут экспертызы. Што, думаеш, робіць спадар Д.? На абследаванне ён не з'яўляецца, затое акурат праз месяц піша чарговы ліст у рэдакцыю. І што ты загадаеш з гэтым лістом рабіць? І хто тут, выбачайце, крайні? Не рэдакцыя ж вызначае групу інваліднасці. Ці вось грамадзянка І. з Капыльскага раёна скардзіцца на зяця, супраць якога мясцовыя органы не ўзбуджаюць крымінальную справу. З самымі лепшымі намерамі — дапамагчы няшчасным жанчынам — накіроўваем скаргу ў пракуратуру. Адтуль адказ: «аб фактах ні І., ні яе дачка ў праваахоўныя органы не звярталіся...» І каму тут чырванець трэба? Даводзіцца мне...

Твая паспешлівасць, бывае, проста смешыць. Спадар З. з Нясвіжскага раёна, не знайшоўшы квіток на страхоўку хаты, тут жа напісаў у рэдакцыю: куды, маўляў, пайшлі мае грошы? Пісьмо ляціць у Нясвіж, у Дзяржстрах. Адтуль камісія едзе на месца разбірацца і... знаходзіць злашчасны квіток, які спадар З. проста забыўся, куды паклаў... Смешна, праўда? Але ж людзі ехалі, турбаваліся... Ці не варта было, перш чым узяцца за ручку, пакапацца крыху ў памяці?

Мяне, канешне, кранае што ты заўсёды, нават дробязямі, дзелішся са мной... Але... Спадарыня С. з Дзяржынскага раёна скардзіцца на суседку, чый сабака задушыў двух яе гусей. Рэдакцыя ж не можа вырашаць усе дваровыя канфлікты. Для гэтага ёсць участковы. Ці грамадзянін Ф. са Слуцка, напэўна, натхнёны тым, што рэдакцыя дапамагла жыхарам дома ў Шчучыне ліквідаваць патоп, скардзіцца, што ў яго працякае, прабачце, унітаз. Але ж жыхары Шчучына абабілі парогі ўсіх інстанцый, перад тым як напісаць у газету. А спадар Ф. наўрад ці выклікаў нават сантэхніка...

І яшчэ момант, які часам мяне нават крыўдзіць: ты няўважліва чытаеш нашу газету. Здаецца, зусім нядаўна «Пытальнік» пісаў пра гэта — а зноў ідуць пісьмы з аналагічнымі пытаннямі. Даводзіцца пісаць табе адказы, указваючы, дзе ты можаш пачытаць аб гэтым больш падрабязна. Не крыўдзіся, калі ласка, на мае заўвагі, мяркую, абгрунтаваныя. Мы ж — даўнія знаёмыя, праўда?

Спадзяюся, ты не вельмі стаміўся, чытаючы маю пісаніну. Зрэшты, нічога страшнага: я ж цярпліва чытаю цябе штодня...

Як заўсёды, чакаю тваіх лістоў. Пішы, шаноўны чытач.

***Заўсёды твой***

**рэдактар аддзела пісьмаў**
**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## ПАРЛАМЕНЦКІ ВІЗІТ ЗАВЕРШАНЫ

***Заключная частка знаходжання дэлегацыі Нацыянальнага сходу Беларусі ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы была прысвечана азнаямленню з буйнейшым індустрыяльным і фінансава-эканамічным цэнтрам гэтай краіны — Шанхаем.***

Анатоль Малафееў, Павел Шыпук і іншыя дэпутаты вывучылі своеасаблівы эканамічны раён пад назвай Новая эканамічная прастора Пудун і, у прыватнасці, зону прамысловага развіцця Цзіньцяо. 26 сакавіка адбылася таксама сустрэча са старшынёй Сходу народных прадстаўнікоў Шанхая.

Вялікую цікавасць ва ўдзельнікаў дэлегацыі выклікала наведванне Баошаньскага металургічнага камбіната. Як вядома, падобныя вытворчасці характарызуюцца моцнай забруджанасцю і звычайна нясуць вялікую небяспеку для навакольнага асяроддзя. Аднак кітайскія вытворцы забяспечылі на прадпрыемстве настолькі высокія экалагічныя ўмовы, што паблізу з цяжкай і «бруднай» вытворчасцю вельмі добра адчуваюць сябе насельнікі заапарка. Гэтым і здзівілі кітайцы беларускіх парламентарыяў.

У шэрагу іншых аб'ектаў, якія наведала ў Шанхаі беларуская дэлегацыя, адна з самых высокіх у свеце тэлевізійная башня. Кіраўнікі Нацыянальнага сходу, падняўшыся на яе, нават пакінулі свае аўтографы ў Кнізе ганаровых гасцей.

Як паведамілі «Звяздзе» ў прэс-службе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, 28 сакавіка праграма афіцыйнага знаходжання парламенцкай дэлегацыі будзе завершана, а праз дзень яе ўдзельнікі, вярнуўшыся ў Мінск, змогуць падзяліцца першымі ўражаннямі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## МАСЛА — НЕ ЦУКАР, АЛЕ ТАКСАМА МОЖА «РАСТВАРАЦЦА»

Аб тым, што нашы прадукты ў вялікай колькасці скупляюцца і вывозяцца за межы рэспублікі, сведчаць канкрэтныя лічбы. У прыватнасці, у Брэсцкай вобласці з пачатку года (па стану на апошнюю дэкаду сакавіка) праз гандлёвую сетку рэалізавана 850 тон масла, што на 120 тон больш, чым было яго прададзена за такі ж перыяд летась. Каўбасных вырабаў рэалізавана амаль на трэць больш — 1700 тон. Не цяжка здагадацца, што, нягледзячы на строгую забарону, там-сям ёсць магчымасць для скупкі прадуктаў вялікімі партыямі. Па меры сіл праваахоўныя органы спрабуюць прыняць пэўныя контрмеры. У Пінску, напрыклад, была затрымана грамадзянка Украіны, якая атрымала са склада 80 кілаграмаў масла. А супрацоўнікі Ленінскага РАУС горада Брэста затрымалі двух «карабейнікаў» — яны скупілі вялікую колькасць глазураваных сыркоў. Па абодвух выпадках узбуджаны крымінальныя справы.

Як паведаміў старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч, які пабываў днямі ў Брэсце, у Мінскай вобласці была затрымана вялікая партыя мяса. Атрымаўшы адпаведны дазвол у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, фірма «Аграсэрвіс-6» скупляла за бясцэнак свініну — ад 12 да 50 тысяч рублёў за кілаграм жывой вагі. Мяса гэта прызначалася для разлікаў за энергарэсурсы. Такім чынам яго было закуплена звыш 500 тон, аднак толькі 22 тоны засталіся ў Беларусі. Па гэтаму факту цяпер таксама вядзецца разбор.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

## Інфарм-какта́йль

Аднаму жыхару Тэль-Авіва ўдалося купіць участак пад дачу... на Марсе. І па вельмі сходнай цане — усяго за 15 долараў. Кожнаму гаспадару купленага ўчастка фірма ўручае пранумараваны план яго ўласнасці. Уся тэрыторыя Марса разбіта на 3 мільёны ўчасткаў. І каля 400 ужо прададзена.

**ІТАР-ТАСС**

*Газетай было праведзена бліц-апытанне сярод брытанак ва ўзросце ад 18 да 25 гадоў, ці згодны яны прыйсці на працу голымі за мільён долараў. Вось што яно паказала: дзве з васьмі дакладна адказалі «так». Яшчэ адна сказала б «так», але сумняваецца, што ёй дадуць такую суму, паколькі ў яе не вельмі стройная фігура. Трэцяя згадзілася б, але не на цэлы дзень. Астатнія і за мільён не захацелі хадзіць па офісу ў чым маці нарадзіла.*

***«Дэйлі стар»***

Напярэдадні 80-годдзя аб'яўлення незалежнасці рэспублікі некалькі эстонскіх міністраў па выпадку юбілею выпісалі самі сабе буйныя прэміі з фондаў уласных устаноў. Гісторыя стала вядома грамадскасці. За руку злавілі нават прэм'ера Марта Сіймана. А вось міністр фінансаў Март Отман паведаміў, што нічога... не ведаў аб прэміях. Затое міністр эканомікі Яак Лейман нічога не адмаўляў і нават патлумачыў, што такім чынам кампенсуе страты, паколькі раней быў прадпрымальнікам. Урад вырашыў: прэміі, выпісаныя сабе, міністры павінны вярнуць у дзяржаўную касу.

**«Труд»**

# КРАСА І СІЛА



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**



**Уладзімір ДУБОЎКА (1900—1976)**

Гляджу і не магу налюбавацца на гэтага чалавека.

Кожная рысачка ягонага твару — гэта ўвасабленне нашай паэзіі.

Сёння з раніцы сустрэў самага галоўнага архіварыуса гісторыі беларускай літаратуры — Адама Мальдзіса. Балазе, жывём побач. Адам мне распавёў, што жывога Дубоўку бачыў усяго тры разы. Што ён быў вельмі інтэлігентным, жывым чалавекам, не зважаючы на тое, што праседзеў у сталінскіх канцлагерах больш за 20 гадоў і, дарэчы, нікога не «заклаў». Што Уладзімір Караткевіч яго называў не інакш як Патрыярхам!

Шкада, у Анталогіі змяшчаецца толькі адзін верш. А так бы я надрукаваў усяго Дубоўку. «О, Беларусь, мая шыпшына...» — гэта ён напісаў пра сябе і пра нас.

Верш, які вы сёння пачытаеце, паэт напісаў у 24 гады. Верш трошачкі нязграбны. Гэта па маладосці. Але як шчыра, як шчымліва, як прыгожа! Быццам бы Кроў...

### ТЫ РУКУ СВАЮ ЗАБІНТАВАЛА

*Ты руку сваю забінтавала,*
*маладая... як цябе і клікаць?*
*Маё сэрца рвецца на кавалкі*
*і сьціскаецца тугой вялікай.*

*Вусны пацалую шчыра, моцна,*
*прытуліся... Хай гавораць людзі:*
*Словы іх, як палыновы воцат,*
*зьвінавацяць і мяне ў блудзе.*

*Ці-ж я буду скардзіцца на крыўду:*
*у душы паэты — чорт зламае карак*
*Плач душою, а часіны прыдуць,*
*сьлёзы завіюцца у каралі.*

*Ты руку сваю забінтавала,*
*чым я раны сэрца забінтую?*
*Яно рвецца, рвецца на кавалкі*
*за сябе, цябе і за другую.*

***З кнігі «Трысьцё» (1925).***




**Годовой бухгалтерский баланс**
**на 1 января 1998 года**
**ОАО «Белгазпромбанк»,**
**г. Минск, ул. Притыцкого, 60/2**

*Лицензия на совершение банковских операций выдана НБ РБ 28.XI. 1997 г., № 16*

*млн. руб.*

**АКТИВ**

| № | Наименование статей | Сумма |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 1. | Денежные средства и драгоценные металлы | 8,381.0 |
| 2. | Средства на корреспондентских счетах в банках | 152,563.2 |
| 3. | Обязательные резервы | 22,732.2 |
| 4. | Кредиты и депозиты банкам | 161,621.6 |
| | из них: | |
| | - просроченная и сомнительная задолженность | - |
| 5. | Кредиты клиентам | 180,917.8 |
| | из них: | |
| | - просроченная и сомнительная задолженность | 3,260.4 |
| 6. | Ценные бумаги | 162,334.2 |
| 7. | Долгосрочные финансовые вложения, инвестиции | 20.4 |
| 8. | Основные средства и нематериальные активы | 59,221.6 |
| 9. | Прочие активы | 15,816.4 |
| | **Всего активов** | **763,608.4** |

**ПАССИВ**

| № | Наименование статей | Сумма |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 1. | Средства банков на корреспондентских счетах | 49,836.9 |
| 2. | Кредиты и депозиты банков (включая НБ РБ) | 202,074.5 |
| 3. | Средства клиентов | 266,522.9 |
| 4. | Долговые обязательства банков | 136.0 |
| 5. | Прочие пассивы | 10,154.5 |
| 6. | Капитал и резервы | 234,883.6 |
| | - уставный капитал | 160,392.5 |
| | - фонды банка | 33,230.8 |
| | - фонд переоценки | 17,858.9 |
| | - нераспределенная прибыль (убыток) | 5,969.8 |
| | - прочие | 17,431.6 |
| | **Всего пассивов** | **763,608.4** |




**Отчет о прибылях и убытках**
**на 1 января 1998 года**
**ОАО «Белгазпромбанк»,**
**Минск, ул. Притыцкого, 60/2**

*млн. руб.*

**ДОХОДЫ БАНКА**

| Наименование статей | Сумма |
|---|---|
| 1. Процентные доходы | 118,374.9 |
| 2. Комиссионные доходы | 76,039.1 |
| 3. Прочие банковские доходы | 234,374.9 |
| 4. Поступления по уменьшению резервов | 294.3 |
| 5. Непредвиденные доходы | 3.3 |
| 6. Прочие | 1,768.2 |
| из них: | |
| - прочие операционные | 1,768.2 |
| **Всего доходы** | **430,854.7** |
| **Прибыль (+)** | **17,056.5** |
| **Убыток (-)** | - |

**РАСХОДЫ БАНКА**

| Наименование статей | Сумма |
|---|---|
| 1. Процентные расходы | 88,627.1 |
| 2. Комиссионные расходы | 5,849.9 |
| 3. Прочие банковские расходы | 222,230.9 |
| 4. Отчисления в резервы | 8,183.7 |
| 5. Непредвиденные потери | - |
| 6. Прочие | 88,906.6 |
| из них: | |
| - прочие операционные | 86,818.6 |
| **Всего расходы** | **413,798.2** |

Аудиторским обществом «Аудитэл» (лицензия Аудиторской палаты Республики Беларусь № 33 от 30 сентября 1993 г. и лицензия Национального банка Республики Беларусь № 2 от 25 ноября 1994 г.) в соответствии с установленными требованиями банковского законодательства проведена аудиторская проверка годового бухгалтерского баланса на 1.01.98 г. и отчета о прибылях и убытках за 1997 год совместного белорусско-российского открытого акционерного общества «Белгазпромбанк».

По итогам проверки и аудиторских исследований первичных бухгалтерских документов, отчетов и различного вида материалов сделано заключение о достоверном отражении сведений в бухгалтерском балансе по состоянию на 1.01.98 г. и отчете о прибылях и убытках за 1997 год, а также соответствии ведения бухгалтерского учета нормативным требованиям Национального банка Республики Беларусь.

# САШКАЎ ПАРАВОЗ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.)

У 1942 годзе пасля акупацыі Югаславіі мяне падабралі на вуліцы немцы як беспрытульніка. Адправілі ў Германію, у лагер для прымусовых перасяленцаў. Шмат там было рознага народу, але больш за ўсё рускіх, украінцаў, беларусаў. Дарослыя працавалі на заводзе «Фольксваген», а мы, пацанва, прыбіралі тэрыторыю, а па вечарах хадзілі па бараках, спявалі песні, карацей, давалі канцэрты за калючым дротам.

Потым я ўцёк і трапіў батраком да нямецкага бюргера.

Так пражыў да 1945 года, пакуль тую мясцовасць, дзе я знаходзіўся, не вызвалілі амерыканцы. Адзін з афіцэраў прапаноўваў мне паехаць у Штаты. Пераконваў, што ў СССР жыць цяжка, там людзям дрэнна, а ў Амерыцы ледзь не малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Але я ўжо ведаў, што родныя ў мяне — рускія, ва ўсякім разе, напалову. Вучыўся я ў рускай школе, у лагеры быў разам з рускімі, і яны сталі мне блізкімі і зразумелымі. Дык навошта ж ехаць на чужыну?

Так выбраў Радзіму і дагэтуль зусім не шкадую аб гэтым. Жыву як большасць людзей, і лічу, што нават нябдага. Ніколі ніхто мяне не пакрыўдзіў з-за чорнага колеру скуры. Хіба толькі які-небудзь п'яніца. Колькі давядзецца жыць, і дзецям, і ўнукам буду гаварыць, што тут мой родны дом.

Пасля гэтых слоў мне міжволі прыгадаліся радкі з кнігі вядомага ў ЗША бізнесмена, аднаго з кіраўнікоў буйнейшых аўтамабільных карпарацый «Форд» і «Крайслер» Лі Якока, які па свайму паходжанню належыць да жоўтай расы. У сваёй кнізе «Кар'ера менеджэра» ён піша: «Калі вы падвяргаецеся шавіністычнаму ганенню ў дзіцячым узросце, гэта пакідае след на ўсё жыццё. Я яго памятаю дагэтуль і ўсё яшчэ адчуваю непрыемна асадак у душы».

## ДОМ ДЛЯ БЕСПРЫТУЛЬНІКАЎ

Выконваючы жаданне негрыцёнка Аляксандра Дзямідава, амерыканцы перапраўлілі яго ў савецкую акупацыйную зону Германіі. У нашых войсках адразу пасля заканчэння вайны было шмат дзяцей — сыноў палка і проста прыблудных. Іх звезлі ў інтэрнат, размешчаны ў старажытным замку, дзе вучыліся дзеці афіцэраў. Тут беспрытульнікаў кармілі, апраналі, абувалі, вучылі.

Але так працягвалася нядоўга. Праз нейкі час усіх, у каго не было бацькоў, адправілі ў дзіцячы дом у Мінск. У ім апынуўся і Сашка-негр.

— Гэта, бадай, лепшы час майго жыцця, — успамінае цяпер А. Дзямідаў. — У нас была добрая сталярная майстэрня, а выкладчык — майстар на ўсе рукі. Ён навучыў нас працаваць на дрэваапрацоўчых станках, усяму, што ўмеў сам. У жыцці гэта вельмі спатрэбілася. Асабліва адразу пасля жаніцьбы. Жылі ўсе небагата, а я ўмеў і мэблю адрамантаваць, і матрац перацягнуць, і многае іншае. Дзетдомаўскі шавец таксама не хаваў сакрэты свайго рамяства. Гэта стала такой дапамогай у жыцці! Дзяўчынак у дзетдоме вучылі шыць, вязаць.

Улетку дзетдом здымаў для нас школу ў прыгарадзе Мінска. Побач лес, рэчка, мы купаліся, збіралі грыбы, ягады... Увогуле цудоўна адпачывалі. Бывала, канешне, што граху таіць, і хуліганілі. Не без гэтага, дзеці ўсё ж.

Настаўнікі, выхавальнікі былі для нас татамі і мамамі, а равеснікі — братамі і сёстрамі. Мы ні ў чым не адчувалі патрэбы і былі сапраўды прывілеяванымі людзьмі. Неяк ужо праз шмат гадоў зайшоў я ў гарана — спатрэбілася даведка, што я дзетдомавец. Жанчына, якая выдавала яе, сказала: «Вы самыя шчаслівыя людзі». Напэўна, не ўсе з гэтым пагодзяцца, але я думаю, яна мела на ўвазе, што далёка не ўсе мае равеснікі, што жылі ў тыя гады з бацькамі, жылі, ні ў чым не адчуваючы патрэбы, як мы.

Ці не таму ў нас, былых дзетдомаўцаў, стала традыцыяй сустракацца ў дзень вызвалення Мінска ад фашыстаў, 3 ліпеня, ля Дома афіцэраў, ля помніка танкістам, якія першымі ўварваліся тады ў горад.

Дагэтуль успамінаецца дзетдомаўскае дзяцінства, хоць усе ўжо бабулі і дзядулі, у кожнага свае праблемы. У некага жыццё склалася лепш, у некага горш, у некага і зусім няўдала.

Мяне нават папракаюць за тое, што не цураюся бамжоў, алкаголікаў. А я не магу адвярнуцца ад тых, з кім сядзеў за адной партай, ці чыя маці аддавала мне апошні кавалак хлеба, калі я прыходзіў да яе сына. Жыццё можа паламаць любога.

## АФРЫКАНСКІЯ КАРАНІ

Ззаду — дзесяцігодка, час развітвацца з дзіцячым домам. Пачыналася самастойнае жыццё. Яшчэ ў час вучобы Сашка-негр хадзіў у школу праз тэрыторыю лакаматыўнага дэпо. Яму падабалася глядзець на паравозы, ён часта заглядаў у кузню. Многіх ён тут ведаў, і да яго візітаў даўно прывыклі. Таму сумненняў у выбары прафесіі не было. Прыйшоў у дэпо і стаў качагарам. Праз год яго накіравалі ў Гомельскае чыгуначнае вучылішча вучыцца на машыніста. А скончыўшы, атрымаў накіраванне ў Мінск. Тут і працаваў да самай пенсіі.

У час бесклапотнага дзяцінства Аляксандра не вельмі хвалявала, чаму яго знешнасць так рэзка адрозніваецца ад іншых дзяцей, хто ён наогул такі, хто яго бацькі і дзе яны. Але ў рэшце рэшт пытанні з'явіліся. Ён разаслаў запыты ў Міжнародны Чырвоны Крыж, у Інюркалегію, у югаслаўскую школу, дзе вучыўся. І нечакана удача ўсміхнулася. З Амерыкі адгукнулася цётка, у якой ён у дзяцінстве жыў у Югаславіі. У пісьме яна паведамляла, што нарадзіўся Саша ў афрыканскім горадзе Бамбары — цяпер гэта Заір. Яго бацька — Дзямідаў Аляксандр Парфіравіч належаў да даволі багатай уральскай сям'і. Не выключана, што да той самай славутай дынастыі заводчыкаў-металургаў. Як ён трапіў у Афрыку, цётка, канешне, не ведала. Паведаміла толькі, што ў бацькі былі два браты, Андрэй і Эрнэст. Андрэй жыў у Югаславіі. Да яго і вывезлі хлопчыка, калі Сашу споўніўся ўсяго год.

Яшчэ цётка напісала, што маці Сашы — негрыцянка, і ў яе ёсць яшчэ дачка ад таго ж бацькі, сястра яму, значыцца, але дзе яна — невядома. Прыслала цётка і здымак магілы дзядзькі Андрэя, які ў свой час усынавіў малыша і даў яму сваё імя па бацьку. На другім здымку быў Саша на руках у свайго дзядзькі. Пра роднага яго бацьку яна нічога не ведае. Так і засталося неразгаданым тайнае каханне афрыканскай дзяўчыны і ўральскага багацея.

Вядома, хацелася б Аляксандру Андрэевічу знайсці сваю сястру, маці, але сляды бацькоўскай сям'і, якая яшчэ магла б даць нейкія наводкі, на жаль, зніклі.

## СВАЯ СЯМ'Я

У той час, калі жыў Саша ў дзіцячым доме, у іх былі шэфы — калектыў Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі. Дзеці лётчыкаў, авіятэхнікаў, іншага абслуговага персаналу кожнае лета адпачывалі разам з дзетдомаўцамі. Была сярод іх і будучая жонка Дзямідава — Людміла. Дзяцінства ў яе таксама было несалодкае — бацькоў больш цікавіла вясёлае жыццё, чым лёс уласнага дзіцяці. Можа, пачуццё сіроцтва, агульныя беды і зблізілі маладых людзей, ажаніліся яны, калі яму было ўсяго 18, а ёй — 17. Жылі першы час у яе бабулі. Потым атрымалі ад дэпо пакойчык. Неўзабаве нарадзіўся сын. Назвалі Аляксандрам. Цяпер у яго ўжо двое сваіх сыноў. Старэйшы таксама Аляксандр, але ўжо ў гонар дзеда.

— Па спецыяльнасці мой сын — шафёр, — расказвае Аляксандр Андрэевіч. — Не курыць, не брыдкасловіць і не п'е. Нават мяне часам за гэта крытыкуе. Здараецца, прыйду да яго дадому, ён, канешне, нальe чарку, а потым кажа: «Хопіць, мне не гарэлкі шкада, а твайго здароўя, бацька». Але тым не менш заўсёды раіцца са мной, улічвае мае меркаванні. Вось толькі майстраваць я яго не навучыў. Цяпер просіць мяне то замок уставіць, то канапу адрамантаваць, то яшчэ што-небудзь. Ну, нічога, для мне гэта задавальненне. І жонка ў яго малайчына: працавітая і без выкрунтасаў.

Дачка Лена скончыла фізкультурны інстытут, выкладчык і трэнер па акрабатыцы і гімнастыцы. А яшчэ медсястра, прафесіянальная масажыстка. Так што беспрацоўе не пагражае. Толькі вось з мужам не пашанцавала. Гнілы чалавек прапіўся, п'яніца. Давялося развесціся. І без удзелу Дзямідава-старэйшага тут не абышлося. Затое ва ўнуку Алане (былы зяць назваў яго так у гонар свайго таварыша, з якім сябраваў у час службы ў групе савецкіх войскаў у Германіі), душы не чуе. Хлопчыку пяць гадоў. Ён ведае, што паравоз дзеда стаіць каля лесу, і, калі той вяртаецца з работы дадому, пытаецца: «Ну што, дзядуля, прыходзіў да цябе зайчык на паравоз?» «Так, — адказвае той, шчаслівы, — і яблычкаў табе перадаў, і малачка, і цукерак...» А потым яны разам гуляюць, як гаворыць дзед, да страты пульсу.

— Мне заўсёды шанцавала на добрых людзей. Калі сын, Сашка, быў зусім маленькі, і я першы раз прывёў яго ў паліклініку, увесь персанал прыбег на яго паглядзець, хоць ён быў не чарнаскуры, але ўсё ж смуглявы. А вось валасы мае, кучаравыя. Медыкі так і круціліся вакол яго, як курыцы-наседкі. І ўсе наперабой давалі парады, як і што з ім трэба рабіць. Сапраўдны кансіліум арганізавалі.

Калі беларускага негра вырашылі браць у армію — і нават пастрыглі — ваенком катэгарычна забараніў. І настаяў на сваім. Усё жыццё праслужыўшы ў арміі, добра ведаючы норавы салдацкага асяроддзя, ён разумеў, як там будзе хлопцу з такой незвычайнай знешнасцю. Напэўна, ён меў рацыю.

І такіх прыкладаў Аляксандр Дзямідаў-старэйшы можа прывесці мноства. Нядзіўна, што як толькі заходзіць размова наконт адносінаў да яго знешнасці розных людзей, Аляксандр Андрэевіч крыўдзіцца: «Нават не хачу, каб у мяне пра гэта пыталіся. Я заўсёды жыў і цяпер жыву сярод добрых людзей. І дай ім Бог усім здароўя».

**Валерый ПЕРЗАШКЕВІЧ.**



## ВЫШУК



Савецкім РАУС г. Мінска адшукваецца без весткі прапаўшы грамадзянін Бяскорсы Аляксандр Аляксандравіч, 29. 04. 1973 года нараджэння, ураджэнец г. Мінска, пражываючы: г. Мінск, вул. Я. Коласа, 69—67, які 03. 01. 1998 года выйшаў з дому і да гэтага часу яго месцазнаходжанне не ўстаноўлена.

Прыметы: на выгляд 25 гадоў, рост 175—180 см, сярэдняга целаскладу, твар авальны, бледны, еўрапейскага тыпу, валасы цёмныя, кароткія, вочы карыя.

Быў апрануты: замшавая падоўжаная куртка цёмнага колеру, світэр цёмна-шэрага колеру, джынсы цёмнага колеру, майка белага колеру, шкарпэткі цёмныя.

Просім грамадзян, якія маюць якую-небудзь інфармацыю аб месцазнаходжанні адшукваемага і яго лёсе, паведаміць у Савецкі РАУС г. Мінска па тэлефонах: 232-52-34; 232-02-02 або па тэл. 02.

*СМЕХАТЭРАПІЯ*

*ГОСЦЬ «ЗВЯЗДЫ»*

# МАСТАК АД ЖУРНАЛІСТЫКІ

**Хто Міколу Гіргеля не знае, той газеты не чытае. І часопісы. Ва ўсякім разе, асабіста я захапляўся яшчэ ў студэнцкія гады ягонымі карыкатурамі і шаржамі, якія пасля склалі некалькі кніг мастака. Пэўны час нават працаваў з ім. Гэта дапамагло ацаніць чалавечыя якасці: шчыры, разважлівы чалавек. І што характэрна, вельмі сур'ёзны.**

*— Мікалай Сяргеевіч, да знаёмства з вамі мастакі-карыкатурысты мне здаваліся гэткімі з'едлівымі дзядзькамі, нават крыху злоснымі. Вы — вельмі далікатны чалавек. І веселуном вас не назваў бы.*

— Па-першае, мне не падабаецца вызначэнне — карыкатурыст. Я — мастак-графік.. Можа, калі хочаце, гумарыст. Але далёка не хахмач. Вельмі сур'ёзна стаўлюся да працы. Спачатку ўсё ўзважу, а пасля толькі малюю, стараючыся ў сюжэтах не паўтарацца. А гэта за шмат гадоў не проста. Я — традыцыяналіст. Іду шляхам сваіх настаўнікаў: мастакоў Міколы Гурло і Валянціна Волкава. Больш таго, я хутчэй за ўсё мастак ад журналістыкі. Бо ніколі не забываю пра публіцыстычнасць твораў.

*— Як вы ацэньваеце маладых калег?*

— Шмат здольных хлопцаў. Не хапае якраз сур'ёзнасці ў адносінах да працы. Круцяцца вакол некалькіх тэм: секс, няверная жонка, тэлевізар, бязлюдны востраў. А пра грамадзянскую пазіцыю забываюць.

*— Ці здаралася, што нехта моцна крыўдзіўся на малюнкі?*

— Рэдка. Памятаю, у войску намаляваў карыкатуру на камандзіра. Той у крык: «Хто?!» Прызнаўся. Атрымаў належнае, а пасля той кажа: «Слухай, намалюй гэткім чынам майго начальніка».

*— Чым вы найбольш незадаволеныя ў сабе?*

— Часта даводзіцца, на жаль, ісці на кампраміс. А на горла музе наступаць нельга. Таму ў маёй папцы шмат малюнкаў, якія яшчэ чакаюць свайго часу.

**Гутарыў Міхась БЕРАСТ.**









## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

— Тата, не сумуй, я табе куплю шмат грошай.

❑

Маша ўбачыла вэлюм:

— Ой, гляньце, нявесціна шкура вісіць!

❑

Палінка пытае лысага дзядулю:

— Дзядуля, а чаму гэта ў цябе галава такая пустая?

## АНЕКДОТЫ

Мужчына тэлефануе і моцна крычыць:

— Гэта «хуткая дапамога»? Калі ласка, прыязджайце хутчэй, з жонкаю кепска!

— А што з ёю здарылася?

— Ды вось цэлую гадзіну даказваю, што ў пакоі белыя коні бегаюць, а яна сцвярджае, што ніякіх коней няма.

* * *

Жонка кажа мужу падчас снедання:

— Дарагі, а заўтра ж дваццаць пяць гадоў, як мы пажаніліся! Ці не закалоць нам парсючка?

— Вось яшчэ! А парсючок у чым вінаваты?

* * *

Заходзіць п'яны мужык у аптэку і пытае:

— У вас апельсіны ёсць?

— Няма, у нас аптэка, а не агароднінны магазін.

Праз паўгадзіны зноў мужык падыходзіць:

— У вас апельсіны ёсць?

— Мы ж казалі: у нас аптэка!

Праз некалькі хвілін бачаць, што ён зноў падыходзіць. Узялі і хуценька вывесілі таблічку: «Апельсінаў няма».

Мужык чытае таблічку і кажа:

— А-а! Усё ж такі былі апельсіны!

* * *

Заходзіць сакратарка да начальніка. Той сядзіць, усміхаючыся, і курыць. Яна ў енк:

— Васіль Пятровіч, вам жа доктар забараніў курыць!

— Ужо можна...

— Чаму?

— Доктар памёр.



# ЖЫЦЦЁ НА ЗЯМЛЮ ЗАНЕСЛІ КАМЯНІ З НЕБА — МЕТЭАРЫТЫ?..

**У РОЗНЫХ КУТОЧКАХ БЕЛАРУСІ** бытуе павер'е аб тым, што камяні падаюць з неба. Пра гэта сведчаць і шматлікія народныя паданні. У адным з іх расказваецца, што камяні з неба — гэта нячыстая сіла, якая стала сапернічаць з Богам, і той разгневаўся, праклёў яе, ператварыў у камлыгі і скінуў на зямлю. Яшчэ часцей сцвярджаюць, што падаючыя зоркі (метэоры, баліды) нагадваюць змея (вужа, цмока), які праносіцца па небе. Пры гэтым думаюць, што змей пераносіць скарбы: калі вогненны след жоўтага колеру — ён нясе золата, калі белага — срэбра. Бытавала перакананне, што да зорак, якія праносяцца ў небе, трэба ставіцца з павагай, нельга смяяцца, інакш яны спаляць будынак разам з усімі пажыткамі.

Калі знаходзілі незвычайны каменьчык памерам з палову бульбіны, маглі сказаць, што гэта зорка, якая згасла і звалілася на зямлю. На Палессі расказвалі, што аднойчы сяляне паднялі такую «зорку», разбілі яе на кавалачкі, сцерлі ў парашок і карысталіся ім як самым надзейным зеллем. Таксама палешукі лічылі гаючай ваду, настоеную на метэарыце. Усе гэтыя гісторыі — водгук таго, што жыхары нашага краю спрадвеку назіралі падзенне нябесных камянёў.

**Падаючыя «зоркі» над намі**

— Пралёт метэарытных целаў адбываецца ўвесь час, яны пастаянна ўваходзяць у нашу атмасферу, — расказвае дырэктар геалагічнага музея Інстытута геалагічных навук НАН Беларусі Валерый ВІНАКУРАЎ. — Аднак вялізныя масы гэтых целаў згараюць, не дасягаючы паверхні зямлі. Звычайна найчасцей мы бачым «падаючыя зоркі» жнівеньскімі начамі таму, што ў гэты час атмасфера найбольш чыстая і празрыстая. На самай жа справе падзенне нябесных целаў адбываецца кожны дзень — у сярэднім за суткі на Зямлю падае каля 20 тон рэштак «прышэльцаў» з космасу. На сённяшні дзень у калекцыях маецца каля 40 тысяч метэарытаў.

Як паведаміў Валерый Фёдаравіч, усяго існуе тры класы метэарытаў — цвёрдых целаў, што падаюць на Зямлю з міжпланетнай прасторы: жалезныя, жалезакаменныя і каменныя. Прадстаўнікі ўсіх гэтых класаў знойдзены на тэрыторыі Беларусі.

Так, на сённяшні дзень уклад Беларусі ў сусветную калекцыю метэарытаў складае пяць экземпляраў. Падзенне трох метэарытаў: 1858 год — вёска Жмені (цяперашні Столінскі раён), 1893 год — вёска Заброддзе (Стаўбцоўскі раён) і 1965 год — вёска Чорны Бор (Быхаўскі раён) — людзі назіралі.

**Касмічныя «госці» Беларусі**

— Больш за ўсё на Зямлю падае каменных метэарытаў, — расказвае Валерый Вінакураў. — Аднак іх і больш іншых губляецца, бо каменны метэарыт, асабліва на нашым асадачным чахле, цяжка вызначыць.

Напачатку раскажам аб жалезакаменным метэарыце Брагін. Ён упаў, відаць, шмат стагоддзяў таму. Пры падзенні ўзарваўся ў паветры і рассеяўся па вялікай тэрыторыі. Плошча, у межах якой трапляюцца кавалкі Брагіна, мае форму выцягнутага эліпса, даўжыня яго галоўнай восі 22 км, кароткай — 4 км. Першы кавалак быў знойдзены выпадкова яшчэ ў 1809 годзе, апошні — у 1982-м. Па словах Валерыя Вінакурава, маса ўжо знойдзеных фрагментаў складае каля 900 кг, а агульная вага рассыпаных кавалкаў метэарыта, па меркаванню вучоных, складала каля адной тоны.

Самы цяжкі на Беларусі метэарыт — Грэск — належыць да жалезных. Ён быў знойдзены адным кавалкам, і яго маса складала 303 кг.

— Знайшлі яго ў полі дзеці падчас збору металалому. Ужо збіраліся везці на прыёмны пункт, але, на шчасце, умяшаўся школьны настаўнік. Так гэты метэарыт трапіў да навукоўцаў. Сваю назву ён атрымаў па бліжэйшым буйным пасёлку.

Каменны прышэлец Заброддзе з'явіўся больш як стагоддзе таму, напалохаўшы ўсю аднайменную вёску. Селянін Мікалай Шумчык будаваў хату. Па добрай беларускай традыцыі працавалі талакой. У той памятны дзень 22 верасня працаваць пачалі яшчэ да ўсходу сонца. І раптам усе, хто не спаў і быў на вуліцы, убачылі, як над вёскай з гулам праносіцца вогненны шар, пакідаючы за сабой шлейф. На вачах людзей небяспечны «госць» з грукатам прабіў дах і зваліўся ў сенцы. Камень быў цалюткі, нягледзячы на тое, што на пяці бярвёнах сцяны застаўся глыбокі след. «Госць» меў конусападобную форму галоўкі снарада, паверхня была амаль чорная, апаленая. Як пасля высветлілі, камень важыў 3,155 кг.

Метэарыты падаюць і ў наш час. Жыхар вёскі Чорны Бор Быхаўскага раёна Павел Сямёнаў 5 чэрвеня 1965 года сек дровы на сваім двары. Нечакана з паўночнага боку вёскі пачуліся прыглушаныя гукі, якія нагадвалі далёкія выбухі зенітных снарадаў. Сямёнаў паглядзеў на неба, але нічога не ўбачыў. Раптам нешта моцна загрукатала на паўночным усходзе. Бакавы зрок на нейкі момант злавіў невядомы прадмет. Ён праімчаў амаль над галавой і метраў за пяцьдзесят урэзаўся ў хваіну, знёс сук, слізгануў па зваленых побач бярвеннях і зарыўся ў зямлю. У гэты час жонка Сямёнава збіралася па ваду. Грукат над галавой спыніў яе. Нечакана нешта моцна стукнула ў дуб, адскочыла і пляснулася побач на зямлю. Забыўшыся на вёдры, жанчына з усіх ног кінулася прэч. Мужчына ж не разгубіўся, ён хутка дастаў нябеснага прышэльца, які ўвайшоў у зямлю сантыметраў на пятнаццаць. Аказалася, звычайны камень. Важыў каля 4 кг, быў цёплы, але не гарачы. Другі кавалак, які зваліўся ля напалоханай жонкі, важыў каля 2 кг. Абодва камяні пакрывала чорная аплаўленая скарынка.

Неўзабаве пасля здарэння прыехалі людзі «ў шынялях», забралі «гасцей». Больш іх не бачылі, засталіся толькі невялікія кавалкі, якія паспелі адкалоць. Адзін з іх зараз захоўваецца ў Магілёўскім краязнаўчым музеі, другі — у Маскве.

— Шмат яшчэ гавораць аб Пружанскім метэарыце, аб ім нават ёсць звесткі ў Міжнародным зводзе метэарытаў, якія зарэгістраваны па ўсім свеце, аднак ніхто яго ў руках не трымаў, прынамсі, матэрыяльных яго слядоў не захавалася, — гаворыць Валерый Вінакураў.

**Прышэльцы адкрываюць таямніцы Зямлі**

Які ж практычны інтарэс да метэарытаў? Усім вядома, з чаго складаецца Зямля. Але дабрацца, скажам, да яе ядра немагчыма. Тут і дапамагаюць нябесныя прышэльцы. Большасць касмічных целаў маюць аналагічную структуру. Такім чынам, даследуючы метэарыты, мы можам пашырыць уяўленне і пра будову нашай Зямлі.

З гэтай жа мэтай здзяйсняецца і абмен паміж музеямі. Скажам, ад беларускага жалезнага метэарыта Грэск у свой час адпілавалі фрагмент, каб ён мог добра стаць і яго можна было дэманстраваць. Гэты фрагмент падзялілі на дробныя кавалкі і абмянялі на ўзоры іншых метэарытаў, знойдзеных у іншых краінах. Зараз у геалагічным музеі Інстытута геалагічных навук захоўваюцца ўжо 72 ўзоры з розных краін свету. Напрыклад, ёсць кавалачак ад вельмі буйнога метэарыта з Лівіі, які важыў 9 тон, «рэдкіх гасцей», знойдзеных у Аўстраліі, Кітаі і г.д.

Трэба зазначыць, што да адносна нядаўняга часу знаходка метэарыта была даволі рэдкай. Дастаткова сказаць, што на тэрыторыі Савецкага Саюза за 200 апошніх гадоў было знойдзена ўсяго каля 170 такіх камянёў.

Але... Гадоў трыццаць таму здарылася сенсацыя. Ёй папярэднічала знаходка, зробленая ў 1969 годзе японскай экспедыцыяй у Антарктыдзе каля гор Ямато, дзе палярнікі дасталі з лёду дзевяць розных па сваёму саставу метэарытаў. Тэрмінова былі наладжаны мэтавыя назіранні. Да сярэдзіны 1979 года каля тых гор з плошчы 400 кв. км сабралі 991 метэарыт, праз год — яшчэ 400. За такую «ўрадлівасць» гэтае месца назвалі Ледавіковым метэарытным полем. Калі ж раён пошукаў пашырылі, колькасць небяспечных камянёў хутка дасягнула 7 тысяч! За кароткі перыяд на ледзяным кантыненце сабралі ў тры разы больш касмічных камянёў, чым за ўсю гісторыю чалавецтва на ўсіх астатніх мацерыках, разам узятых. Справа ў тым, што ў іншых месцах планеты іх немагчыма адрозніць на фоне іншых горных парод, а на лядовай паверхні яны вылучаюцца цудоўна. Лёд добра кансервуе абломкі і канцэнтруе іх з-за здольнасці слаёў паднімацца на паверхню перад перашкодамі (тых жа гор).

**Жыццё прыйшло з космасу?**

— У Антарктыдзе былі знойдзены метэарыты, на якіх захаваліся сляды жыцця — лішайнікі, і яны працягвалі жыць. Несумненна, гэтае жыццё было занесена на Зямлю з Сусвету, — гаворыць Валерый Вінакураў. — У беларускіх метэарытаў такіх слядоў мы не знайшлі, зрэшты, паглыбленых даследаванняў не праводзілася — мала матэрыялу. А вось амерыканцы, японцы вывучаюць гэтую праблему, карыстаючыся антарктычнымі ўзорамі, вельмі ўважліва.

— Канешне, я не біёлаг, а геолаг, аднак маё асабістае меркаванне такое: жыццё на Зямлю прыйшло з космасу. Так, была і вядомая эвалюцыя, аднак першыя жывыя формы трапілі менавіта адтуль.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

**На здымку:** *так выглядае метэарыт Заброддзе.*

---

***Мяжа***

# ЗЯМНОЕ «ПЕКЛА»

## КАРЭСПАНДЭНТ «ЗВЯЗДЫ» ВЯРНУЎСЯ З КРЭМАТОРЫЯ

«... Дасюль, калі сцямнее, тут хадзіць «баюся», — гаворыць дырэктар Мінскага крэматорыя Аляксандр Карнішкоў. Кабінет «начальніка пекла» знаходзіцца метраў за сто ад асноўнага будынка — звычайная аднапавярховая «скрыня».

«Дабро» на пачатак будоўлі беларускага крэматорыя даў яшчэ Машэраў — першапачаткова планавалася, што гэта будзе сапраўды лепшая ў Саюзе ўстанова такога тыпу (хаця я не ўяўляю, куды ўжо лепш). Аднак кіраўніцтва ў Маскве ўжо ў 1984 годзе, калі прагледзела спачатку каштарыс, «пляснула ў далоні»: ды вы што, такія грошы патрабуеце. Прыйшлося скараціць бюджэт будаўніцтва амаль на трэць.

Крэматорый пачаў дзейнічаць у чэрвені 1986 года. Калі энергічна шукалі ўстанове дырэктара, нечакана выйшлі на прараба будоўлі, пагледзелі і... прызначылі. Так Карнішкоў стаў займацца зусім новай для сябе справай. Амаль дванаццаць гадоў ён не здраджвае абранай (лёсам ці начальствам?) прафесіі.

«Могілкі — амаль бяздумнае забруджванне навакольнага асяроддзя, — з агнём у вачах (во вобраз знайшоў!) — даказвае Аляксандр Пятровіч. — Паглядзіце на Еўропу — там пахаванне ў зямлю каштуе шалёных грошай...»

У былым Саюзе першая печ была пабудавана ў Піцеры, а ў Маскве такі «від паслуг» пачалі аказваць яшчэ ў 1927-м. Недзе ў тыя часы камсамольскі фальклор парадзіў вершык:

Крематорий открывали —
Беспризорника сжигали.
Поглядели — он танцует
И кричит: «Закройте, дует!»

Першы прах у Мінску залажылі ў сцяну калумбарыя (спецыяльныя «могілкі» для урнаў) у канцы чэрвеня 1986 года. На сённяшні дзень колькасць крэміраваных перавышае трыццаць тысяч (амаль 4 тысячы ў год).

— Што, і дзяцей прымаеце? — пытаюся ў Карнішкова.

— Ёсць і дзеці, узрост самага маладога крэміраванага складаў толькі два тыдні, здзіўляюся, як яго з радзільнага дома выдалі. Самы старэйшы быў 103 гады, — адказвае дырэктар.



Тужлівы шлях

— Цяжка нам стала сёння жыць. Сабекошт самой крэмацыі складае 1,3 мільёна рублёў, мы ж можам браць з насельніцтва толькі 800 тысяч. Агульная ж сума, у якую вылiваюцца нашы паслугі — у межах 2,5—3 мільёнаў. Прах выдаём заказчыку праз пяць дзён. Існуе, праўда, і тэрміновая крэмацыя — за дадатковую аплату, канешне.

— Што, і «крутых» хаваеце?

— Ёсць і такія. Мы іх вызначаем і па труне, ну і па блізкіх нябожчыка, вядома. А ўвогуле, у нас ёсць і сямейныя склепы, іх арэнда каштуе 62 мільёны рублёў.

Аказваецца, менавіта крэматорый з'яўляецца месцам сустрэчы ўсіх рэлігій — хрысціянства, каталіцызму, нават будызму... Аднойчы тут в'етнамца ламы адпявалі. «Свечкі ў будыстаў вельмі пахучыя, — расказвае дырэктар, — доўга яшчэ адчуваўся незвычайны водар».

Рытуальныя залы тры — дзве на сто месцаў (у залежнасці ад колькасці блізкіх нябожчыка), адна — на трыста. Непасрэдна ў рытуальнай зале кідаецца ў вочы асобы знак — сонца засцілае чорная пляма. Аказваецца, таксама з сэнсам: ты пайшоў ад нас — і мы пазбавіліся святла. У цэнтры — падстаўка для труны, ля ўзгалоўя тры кнопкі: адна музыку ўключае, дзве другія — труну рухаюць угору і ўніз. Такім чынам, абрад можа лёгка праводзіць адзін чалавек. Уніз — гэта абазначае да печаў, на спальванне. Менавіта там, напэўна, знаходзіцца самае «сэрца» крэматорыя. Крочым услед за дырэктарам.

— А самі ўжо прывыклі? — працягваю задаваць няёмкія пытанні.

— Да гэтага прывыкнуць немагчыма, кожны раз перажываю чужое гора, як сваё, — рэзка адказвае дырэктар.

Рыпучыя дзверы вядуць у нейкую падсобку.

— Калі ўжо прыйдзем? — пытаюся ў дырэктара.

— Ды прыйшлі ўжо, — адказвае той, робячы шырокі жэст даланёю.

Прама перада мной — нейкая вялізная «вылічальная машына» з бегаючымі на экране зялёнымі літаркамі. «Гэта наша новая печ, якую ўвялі ў эксплуатацыю ў 1995 годзе, — гаворыць дырэктар. — Чэшскай вытворчасці, апошняя мадэль. У такой ніякага дыму ў комін не вылятае. Астатнія тры ўжо састарэлі, неабходна мяняць...

Адзін з хлопцаў, якія назіраюць за печамі, шуруе доўгай качаргой. Перад ім — скрыня з косткамі.

— Гэта тое, што застаецца пасля крэмацыі. Будзем малоць, а потым заказчыку аддадзім, — кажа дырэктар.

Скрыня для праху знаходзіцца ўнізе печкі, праз рашотку туды ляціць тое, што ад чалавека застаецца. Ведаю, што на машыне ёсць «вочка», праз якое аператар кантралюе працэс крэмацыі.



... І супакоіўся чалавек у праху сваім.



Націсканне на кнопку — крэмацыя пачалася.

— Можна? — пытаюся ў Андрэя, аднаго з аператараў.

— Давай...

Спачатку я нічога не бачу, але потым вочы пачынаюць прывыкаць да языкоў полымя, і нешта прагладваецца. «Давай я табе лепш на старой печцы пакажу», — прапануе Андрэй і раскрывае «фіранкі» суседняга агрэгата. Вось тут усё як на далоні — скрозь полымя барвовымі «галінкамі» свеціцца тое, што ад чалавека засталося.

— Хутка дагарыць, звычайна цела крэміруецца крыху больш за гадзіну, — гаворыць Андрэй.

— А дзяцей крэміруеш? — працягваю задаваць «нязручныя» пытанні.

— Куды дзецца, але гэта, напэўна, самае цяжкае ў маёй працы — крэміраваць дзяцей і блізкіх. Я ж і пайшоў сюды таму, што жыццё «прыперла» — жонка нарадзіла, на заводзе, сам ведаеш, як заробкі аддаюць, вось сюды і падаўся. А тут маленькую труну трэба ў печ... Але, ты ведаеш, да ўсяго прывыкаеш. Толькі хацелася б, каб даплачвалі за тое, што ў «гарачых умовах» працуем. Тэмпература ж у печцы пад тысячу градусаў.

— А колькі атрымліваеш?

— Ды мільёнаў пяць набягае, але няшмат знойдзецца, напэўна, людзей, якія б мне пазайздросцілі.

— А праўда, што нябожчыкі «ўстаюць» у печы?

— Ды не, можа хіба што рука ўзнімаецца...

— А колькі ты ўжо спа..., вой, крэміраваў?

— Ды кажы па-простаму, не хвалюйся. Лічы сам, я ўжо тут чатыры гады працую, крэміравалі за гэты час тысяч дзесяць нябожчыкаў, нас усяго чатыры аператары працуе. Падлічыў? Я сам ніколі над гэтым не задумваюся, іначай проста «дах паедзе». А ўвогуле, карэспандэнт, заходзь яшчэ.

— Дзякуй, але хіба што толькі з таго боку, — сумна жартую, паказваючы на праход з «цялежкамі» для падвозу трун да печкі...

Калі выйшлі на паветра, вельмі захацелася курыць. «Нічога, з усімі так здараецца, — паблажліва сказаў Карнішкоў. — Асабліва артыстаў усё ўразіла, калі кіно тут «Беларусьфільм» здымаў...»

Але я, шчыра кажучы, ужо нічога не чую — гляджу на сонца і радуюся. Вясна, маладосць, жыццё! Застаецца за спінай гмах крэматорыя, а па праталінах важна крочыць варона. І прыпякае сакавіцкае сонейка.



Калумбарый — апошні прытулак праху.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

